


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 11 (182) ЛІПЕНЬ 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

*Там, дзе людзі чэсныя, законы бескарысныя; там, дзе людзі сапсаваны, законы не выконваюцца*

*Бэнджамін Дзізраэлі*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# НЕЛЬГА ФАЛЬСІФІКАВАЦЬ СТАТЫСТЫКУ

**Зноў на першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама завялі крымінальную справу. У 2013 годзе была заведзена крымінальная справа на Уладзіміра Кавалёва, першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама, начальніка ўпраўлення райсельгасхарчу па ч.3 арт.210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў буйным памеры). Зараз сітуацыя паўтараецца з яго пераемнікам Уладзімірам Варанко, які абвінавачваецца па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса.**

Следчыя мяркуюць, што ён, працуючы на пасадзе дырэктара ААТ "Гарадоцкі льнозавод", сумесна з галоўным бухгалтарам гэтага ж прадпрыемства, здзейсніў службовую падробку і перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы.

Гарадоцкім раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь расследуецца крымінальная справа ў дачыненні да першага намесніка старшыні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта. Крымінальная справа распачата пракуратурай Гарадоцкага раёна па матэрыялах праверкі супрацоўнікаў 7-га ўпраўлення ГУБАЗіК МУС Рэспублікі Беларусь. Прагэтараспавялаафіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

"З 31 студзеня па 1 лістапада 2013, раней працуючы на пасадзе дырэктара ААТ" Гарадоцкі льнозавод ", сумесна з галоўным бухгалтарам гэтага ж прадпрыемства, дзейнічаючы з карыслівай зацікаўленасці, якая выказалася ў імкненні пазбегнуць прыцягнення да матэрыяльнай і дысцыплінарнай адказнасці за несвоечасовую выплату заработнай платы, ўнеслі загадзя ілжывыя звесткі ў неабходныя для налічэння заработнай платы даведкі, якія ў наступным падалі ў банк, - паведамілі ў СК. - у даведках ж паказалі звесткі пра адсутнасць абавязацельстваў перад Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва, пры наяўнасці фактычнай запазычанасці ".

Дзеянні падазраваных кваліфікаваныя па ч.1 арт.427 (Службовая падробка) КК РБ. Санкцы па гэтым артыкуле прадугледжваюць пазбаўленне волі да 2 гадоў.

У цяперашні час следчымі Гарадоцкага раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі праводзяцца неабходныя сьедчыя дзеянні. Першы намеснік старшыні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта таксама падазраецца ў перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў.

Па версіі следства, чыноўнік даў указанні галоўнаму бухгалтару ААТ "Гарадоцкі льнозавод" аб унясенні загадзя ілжывых звестак у афіцыйны дакумент, які адлюстроўваў скажоныя дадзеныя аб увядзенні ў эксплуатацыю малочна-таварнай фермы, якая належыць ААТ "Гарадоцкі льнозавод".

Крымінальная справа расследуецца па ч.2 арт.426 (Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў) КК РБ. Па гэтым артыкуле чыноўніку пагражае таксама ад 2 да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**БЕЛТА**



"ДАЖЫНКІ – 2014"

# МЯСНІКОВІЧ НЕЗАДАВОЛЕНЫ ХОДАМ ПАДРЫХТОЎКІ

**Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч 25 ліпеня ў час рабочай паездкі ў Віцебскую вобласць прызнаў нездавальняючай падрыхтоўку аб'ектаў да правядзення рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2014" у Гарадку.**

Каментуючы журналістам ўбачанае на будаўнічых пляцоўках Гарадка, прэм'ер-міністр адзначыў, што за два месяцы завяршыць усе будаўніцтва і рэканструкцыю не ўяўляецца магчымым. "На падставе тых матэрыялаў, якія мне кладуцца на стол, я меркаваў, што выканана больш аб'ём работ. Але лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Цэлы шэраг аб'ектаў, на мой погляд, не будзе ўведзены ў эксплуатацыю ва ўстаноўленыя тэрміны. Улады і кіраўнікі структурных падраздзяленняў запэўніваюць, што ўсё будзе зроблена якасна і ў тэрмін, але засталося два месяцы. Так, гэта летнія месяцы, гэта спрыяльныя кліматычныя ўмовы, але закончанасці і глянцу "Дажынак" пакуль не відаць ", - сказаў Міхаіл Мясніковіч.

Ён падкрэсліў, што, зыходзячы са становішча спраў, прынята рашэнне сканцэнтраваць увагу на аб'ектах з высокай ступенню гатоўнасці і ўжо па меры іх завяршэння пераходзіць на іншыя пляцоўкі, а ня трымаць Гарадок у такім паўразбураным стане. "Трэба было першапачаткова канцэнтраваць увагу і грошы на тым, што неабходна ў першую чаргу, на тым, што рыхтуецца не проста да" Дажынак ", а будзе працаваць для эканомікі Гарадка многія гады. На жаль, размазалі сродкі па многіх аб'ектах, і цяпер трэба ратаваць становішча ", - сказаў прэм'ер.

Міхаіл Мясніковіч звярнуў увагу, што рэканструкцыя і будаўніцтва ў Гарадку вядзецца з некалькіх крыніц фінансавання. Рэспубліканскі бюджэт ўсе планавыя фінансы вылучае, ёсць яшчэ абласны і мясцовы, а таксама спонсарская дапамога. "Спонсарскія сродкі ацэнены аблвыканкамам дзесьці ў Br250 млрд. На падставе ўскосных прыкмет і адказаў уладаў я разумею, што гэтых грошай няма або іх на парадак менш", - сказаў на заканчэнне прэм'ер-міністр.

У час рабочай паездкі ў Віцебскую вобласць прэм'ер-міністр наведаў ААТ "Аршанскі авіярамонтны завод", малочна-таварны комплекс філіяла "Віраўлянскі" ЗП "Дзецкасельскі-Гарадок" (Гарадоцкі раён), а таксама аб'екты якія будуюцца (рэканструююцца) ў Гарадку, дзе пройдзе фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2014", а таксама азнаёміўся з ходам уборачнай кампаніі.

ДАЎГАВАЯ ЯМА

# У АРГАНІЗАЦЫЙ РАЁНА ЎСЁ БОЛЬШ ПРАТЭРМІНАВАНЫХ ДАЎГОЎ

**Першыя пяць месяцаў засведчылі, што пратэрмінаваная дэбіторская і крэдыторская запазычанасць арганізацый Гарадоцкага раёна значна павялічылася, як і даўгі за паліўна-энергетычныя рэсурсы.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваўданыяфінансавагастановішча абласцей і раёнаў краіны за пяць месяцаў бягучага года. Афіцыйныя даныя сведчаць, што фінансавае становішча ў краіне крызісна пагаршаецца: растуць як запазычанасці арганізацый, так і пратэрмінаванасці па запазычанасцях.

Сітуацыя ў Гарадоцкім раёне адпавядае агульнай тэндэнцыі росту розных даўгоў і пратэрміноўкі іх выплат, але па асобных паказчыках раён знаходзіцца ў сумных лідэрах.

Працягвае расці дэбіторская запазычанасць і несваечасовае яе пагашэнне. Так па краіне ў параўнанні з траўнем мінулага года дэбіторская запазычанасць вырасла з 162,4 трлн. рублёў, да 208,4 трлн. рубл., па Віцебскай вобласці з 19,3 трлн. руб да 23,4 трлн. руб., а па Гарадоцкаму раёну з 43,6 млрд. руб да 56,1 млрд. руб. Яшчэ большымі тэмпамі расла пратэрмінованая дэбіторская запазычанасць па краіне і вобласці. У Гарадоцкім раёне яна вырасла з 16,1 млрд. руб да 19,0 млрд. рубл. Але трэба адзначыць, што яе удзельная вага ў агульнай запазычанасці зменшылася з 37,0% да 33,9%.

У Гарадоцкім раёне, як па краіне і вобласці, за год выраслі даўгі па крэдытах з 348,5 млрд. рубл да 507,9 млрд. руб. Пры гэтым несваечасовае вяртанне крэдытаў павялічылася ў раёне з 87,8 млрд. руб. да 176,2 млрд. руб. – вырасла ў два разы. Але яшчэ горшая тэндэнцыя прадпрыемстваў і арганізацый Віцебскага, Ушацкага, Мёрскага раёнаў, дзе пратэрмінаваная запазычнасць па крэдытам павялічылася ў тры разы.

Наогул няўстойлівае фінансавае становішча прадпрыемстваў і арганізацый Віцебскай вобласці прывяло да таго, што пратэрмінаваная крэдыторскай запазычанасць па падатках, зборах, сацыяльнаму страхаванію ў вобласці склала амаль палову ўсёй гэтай запазычанасці па краіне: 292,6 млрд. руб з 646,7 млрд. руб агульнарэспубліканскай. У Гарадоцкім раёне яна павялічылася з 4825 млн. руб да 9073 млн. руб. Праўда, у Браслаўскім, Докшацкім, Міёрскім, Шумілінскім раёнах яна ў 1,5 – 3 раза больш.

У час падрыхтоўкі да новага ацяпляльнага сезону арганізацыям раёна давядзецца шукаць сродкі для пагашэння даўгоў за паліўна-энергетычныя рэсурсы. Тут даўгі выраслі ў чатыры разы: з 2,5 млрд. руб. да 10,8 млрд. рубл.. Гэты паказчык не самі вялікі ў вобласці – большыя даўгі ў Віцебскім, Аршанскім, Глыбоцкім, Пастаўскім раёнах. А лідэрам па гэтых даўгах ужо каторы год з'яўляецца Шумілінскі раён, які мае доўгу на 48 млрд. руб.

Пагаршэнне фінансавага становішча ў краіне сведчыць пра неэфектыўнасць існуючай эканамічнай мадэлі, якая здольна толькі праедаць расійскія датацыі і крэдыты.

**Л. Антонаў**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# БУДАВАЦЬ БАСЕЙН НЕ РАСПАЧАЛІ

**Тэрыторыю каля гатэля добраўпарадкоўваюць, а басейн будаваць не пачалі. Зараз будаўнікі пачалі добраўпарадкоўваць тэрыторыю каля гатэля на вул. Гагарына, але будаўніцтва абяцанага басейна ўсё яшчэ не распачалі.**

Завяршаюцца працы па дабраўпарадкаванню тэрыторыі каля гатэля па вул. Гагарына, які раней належыў ЦАП "Раубічы", а зараз знаходзіцца ў падпарадкаванні Віцебскага абласнога цэнтра алімпійскага рэзерву па зімовых відах спорту.

Сам гатэль ужо набыў новае аблічча пасля цеплавой мадэрнізацыі і вядуцца працы на прылеглай да яго тэрыторыі. Менавіта ў гатэлі планавалася размясціць будаўнікоў для фінішнага рыўка пры дабраўпарадкаванні Гарадка да Дажынак.

Пры планах падрыхтоўкі да рэспубліканскіх "Дажынак" менавіта комплексу будынкаў на вул. Гагарына: гатэлю, ФАКу, басейну, стадыёну адводзілася адна з вядучых пляцовак для святкавання. Але грошаў на маштабнае сельскагаспадарчае шоў у бюджэце аказалася малавата і фармат "Дажынак" у Гарадку зменшылі да абласнога.

Але і пры гэтым фармаце са старонак раённай газеты абяцалі жыхарам Гарадка басейн на чатыры дарожкі даўжынёй 25 м. У гэта верылася спаўна, бо на першых абласных "Дажынках" у Расонах быў пабудаваны 25 мятровы басейн. А жыхароў там на палову менш, чым у Гарадку.

Толькі гэтыя планы мусяць будуць не здзейснены. Да гэтага часу яшчэ не распачалася праца па будаўніцтву басейна ды і стадыёна таксама. Такімі аказаліся абяцанні ўладаў па будаўніцтву басейна ў Гарадку у 2014 годзе.

**Л. Антонаў**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ НЕ ІМКНУЦЦА АТРЫМАЦЬ ЗЯМЕЛЬНЫЯ ЎЧАСТКІ

**На аукцыёне 14 чэрвеня, дзе разыгрывалася права заключэння дамовы арэнды, выявіліся арэндатары толькі двух зямельных участкаў з трох у Гарадку, што прапанаваў Гарадоцкі райвыканкам.**

"Віцебскі абласны цэнтр маркетынга" правёў у Гарадку аукцыён па выяўленню арэндатараў чатырох зямельных участкаў: трох у Гарадку і аднаго ў Мяжы. Як звычайна сталася, арганізатары аукцыёна спазніліся на паўгадзіны і распачалі яго толькі ў 15.35 замест 15.00. Але на гэтыя спазненні чыноўнікі Гарадоцкага райвыканкама пакульвыказваюцьтольківуснае абурэнне, а рэальных захадаў для выпраўлення сітуацыі не прымаюць. Пара ўжо віцебскіх арганізатараў аукцыёна вучыць, што час гэта грошы.

Аукцыён прайшоў за дзесяць хвілін і ўжо ў 15.45 былі вядомы яго вынікі. Пераможцам першага лота стаў індывідуальны прадпрымальнік з Гарадка, які мяркуе гандляваць у павільёне прадметамі для рыбалкі і палявання. Другі лот выйгралі прадстаўнікі Гарадоцкай птушкафабрыкі. Пры гэтым першапачатковая цана права заключэння арэнды павялічылася толькі на 15% і дасягнула ўсяго 642 тысяч рублёў.

Само права арэнды каштуе мала, але пераможцам неабходна кампенсаваць выдаткі па правядзенню аукцыёна, падрыхтоўкі дакументацыі ў бліжэйшы час. Потым неабходна будзе выдаткоўваць вялікія сродкі на стварэнне праектнай дакументацыі, яе ўзгадненне з кантралюючымі структурамі і непасрэдны пабудаваць павільён.

На трэці лот на аукцыёне ўжо не засталося прэтэндэнтаў. Гэта крыху дзіўна, бо пры пераносе існуючага рынка за аўтастанцыю, на ім усім дзеючым прадпрымальнікам месца не хопіць. Магчыма прадпрымальнікаў не задавальняе, штодамовааарэнды заключаецца толькі на 10 гадоў. Але пра свой лёс неабходна турбавацца зараз, каб потым не застацца ў разбітага карыта.

**Л. Антонаў**

СПАРТЫЎНЫЯ НАВІНЫ

# ПРАЙГРАЛІ ВАЖНЫ МАТЧ

**20 ліпеня ФК "Прамень" саступіў на сваім полі ФК "Днепр" (Дуброўна) з лікам 1:2, а таксама саступіў гэтаму клубу другое месца ў чэмпіянаце першай лігі Віцебскай вобласці.**

Нядзельны матч быў вельмі значным для кожнай з каманд, якія знаходзяцца ў лідэрах чэмпіянату вобласці. Перад матчам у "Праменя" было 11 ачкоў і другое месца, а за ім з 10 ачкамі размясціўся "Днепр".

На жаль, напружаны матч не прынёс нашым футбалістам ніводнага ачка. Непрыемнасці пачаліся на самым пачатку матча. У сваёй штрафной Павал Крыванос у барацьбе з нападаючым гасцей недазволеным прыёмам паваліў яго на зямлю і госці на 4 мінуце адкрылі лік.

Гарадоцкія футбалісты кінуліся адыгрывацца, але ў нападзе амаль нічога не атрымлівалася, нягледзячы на наяўнасць двух нападаючых Вячаслава Мочкіна і Іллі Жарнасека, якім актыўна дапамагаў Вадзім Васільеў. Між тым госці контратакавалі даволі апасна, маючы галявыя моманты, але у першым тайме быў забіты толькі адзін мяч.

Другі тайм пачаўся з атак гаспадароў, якія гулялі па ветру. Але пры гэтым нашы абароноцы страцілі пільнасць і пасля падання гасцей у штангу не здолелі адбіць мяч у зоне брамніка і госці на 60-й мінуце павялі з лікам 2:0.

Між тым у атацы не ўсё добра атрымлівалася ў лідэраў каманды Вячэслава Мочкіна, Вадзіма Васільева, якіх трэнер у сярэдзіне тайма замяніў на Галузо і Рудова, а яшчэ ў сутыкненні з абаронцам гасцей траўму атрымаў Вадзім Жогаў, якога замянілі на Аўсяннікава.

Час ішоў, а лік заставаўся ранейшым, нягледзячы на пастаянныя атакі гаспадароў да якіх ужо далучаўся і наш брамнік Павал Хацько.

І толькі на 89-й мінуце атрымалася ўдалая перадача Ігара Дашкевіча на Іллю Жарнасека пасля якой наш бамбардзір выйшаў адзін на адзін з галкіперам гасцей і забіў свой сёмы мяч у чэмпіянаце вобласці.

Аленададатковыхтрохмінутах зраўняць лік не атрымалася.

Да асаблівасцей нядзельнага матча трэба аднесці вельмі кароткі перапынак паміж таймамі – усяго праз чатыры мінуты пасля яго пачатку прагучаў свісток арбітра аб выхадзе каманд на поле. Дарэчы такі ж кароткі пяцімінутны перапынак быў і ў папярэднім матчы. Як кажуць, арбітры спяшаюцца хутчэй завяршыць матч.

Непрыемнасцюдлязаўзятараў стала таксама дарога да стадыёна ад Невельскай шашы. На дарозе валяліся кавалкі асфальту і камяні – быццам бы будаўнікі не ведаюць, што гэтага нельга рабіць і праезд да стадыёна павінны быць чысты.

У нашай каманды ў першым кругу засталося сыграць прапушчаны матч на полі "Полацкгаза". Пасля сёмай гульні у нашых футбалістаў так і засталося 11 ачкоў.

**Л. Антонаў**

ПРАЦОЎНЫ КАНФЛІКТ

# ДАКАЗАЦЬ ПРАЎДУ КУЛАКОМ

**Супрацоўнік «Белдзяржстраху» атрымаў на мяжы закрытую чэрапна-мазгавая траўму.**

Паводле інфармацыі старэйшага памочніка пракурора Гарадоцкага раёна Дзяніса Аляксеенка размешчанай на сайце Гарадоцкага райвыканкама ў траўні гэтага года ў Гарадоцкую цэнтральную раённую бальніцу з цялеснымі пашкоджаннямі звярнуўся жыхар раённага цэнтра. Пацярпеламу быў пастаўлены дыягназ: закрытая чэрапна-мазгавая траўма і пералом носа без смяшчэння. Па дадзеным факце Гарадоцкім РАУС праведзена праверка.

Устаноўлена, што пацярпелы працуе страхавым агентам БРУСП «Белдзяржстрах», а яго працоўнае месца знаходзіцца ў павільёне на мяжы Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Там жа знаходзяцца і павільёны іншых страхавальнікаў.

Паміж усімі страхавымі агентамі дзейнічала дамоўленасць: страхаваць уладальнікаў аўтатранспарту строга па чарзе.

Але аднойчы ў траўні супрацоўнік "ТАСК" пачаў абслугоўваць кліента раней "сваёй" чаргі. Тады да яго накіраваўся страхаўшчык «Белдзяржстраху» каб прымусіць выконваць нягласную дамоўленасць. Толькі гутарка не атрымалася – пацярпелы атрымаў удар кулаком у твар.

З гэтай сітуацыі відавочна, што паняцце добрасумленнай канкурэнцыі страхавальнікам на мяжы не вядома. Бо найперш кліент вырашае у каго яму страхавацца, а не супрацоўнікі страхуючай арганізацыі ўстанаўліваюць "чаргу".

З-за няўмення вырашаць элементарныя канфлікты мірна работнікам "ТАСК" здзейснена злачынства, за якое прадугледжана пакаранне па арт. 153 КК Рэспублікі Беларусь. За наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання, г. зн. пашкоджання, што прывяло да кароткачасовага расстройства здароўя альбо нанесла нязначную ўстойлівую страту працаздольнасці, парушальнік караецца грамадскімі працамі, або штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да 1 года, або арыштам на тэрмін да трох месяцаў.

**Л. Антонаў**

НАШЫ СТРАТЫ

# ПРАЦА СА СТРАТАМІ

**За першыя пяць месяцаў гэтага года прадпрыемствы і арганізацыі Гарадоцкага раёна панеслі шматмільярдные страты ад сваёй дзейнасці. Пры гэтым амаль палова арганізацый раёна сталі стратнымі, стаўшы лідэрамі ў краіне па гэтай статыстыцы.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя аб сацыяльна-эканамічным развіцці гарадоў і раёнаў Беларусі за пяць месяцаў 2014 года. Сухія лічбы спраў як па краіне, так і ў рэгіёнах сведчаць, што становішча з атрыманнем прыбыткаў ад дзейнасці арганізацый кепскае. Асабліва гэта датычыцца Віцебскай і Магілёўскай абласцей, якія абвальна пагоршылі прыбытковасць сваёй дзейнасці.

Так у Віцебскай вобласці прыбытковасць дзейнасці арганізацый паменшылася амаль у тры разы. Калі ў 2013 годзе за пяць месяцаў прыбытак склаў 1, 570 трлн. рублёў, то ў гэтым годзе толькі 559 млрд. рублёў. Яшчэ горш сітуацыя па Магілёўшчыне, якая па выніках дзейнасці усіх арганізацый апынулася ў мінусе - страты склалі 73 млрд. рублёў.

Сярод раёнаў Віцебшчыны Гарадоцкі раён заняў сумнае першае месца па стратнасці прадпрыемстваў. Страты ад дзейнасці арганізацый склалі 22, 855 млрд. рублёў. І калі ў 2013 годзе за дадзены перыяд стратнымібылітолькітрыраёна вобласці, то ў гэтым годзе ужо 9 раёнаў стратныя: Міёрскі – 14192млн.руб,Глыбоцкі–14890 млн.руб.; Аршанскі – 11192 млн. руб., а таксама Браслаўскі, Шаркаўшчынскі, Шумілінскі, Чашніцкі, Бешанковіцкі раёны.

У раёнах значна павялічыласяпрацэнтнаяколькасць стратных арганізацый. Калі па вобласці іх колькасць павялічылася за год з 130 да 214 або з 12,3% да 20,2%, то па Гарадоцкаму раёне з 18,2% да 45,5%. Гэта другі паказчык у краіне па удзельнай вазе стратных арганізацый, бо на першым месцы ідзе Браслаўскі раён, дзе 52% стратных арганізацый ад агульнай колькасці абследуемых.

Іншыя паказчыкі фінансавай справаздачнасці арганізацый таксамасведчацьабпагаршэнні становішча ў рэгіёнах. Але гэта асобная тэма для аналізу.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ПЕРАКЛАД З РАСЕЙСКАЙ ДЫПЛЯМАТЫЧНАЙ МОВЫ

**Калі 1 верасьня 1983 году ў небе над Сахалінам савецкі зьнішчальнік «Су-15» зьбіў пасажырскі «Боінг 747» паўднёвакарэйскай авіякампаніі, які выконваў рэйс па маршруце Нью-Ёрк — Сеул, то першае паведамленьне ТАСС пра гэтую падзею выглядала прыкладна так: у паветраную прастору СССР заглыбіўся невядомы самалёт, савецкія ваенныя самалёты яго пераследавалі, пакуль тое невядомае судна ня выйшла за нашы межы. Потым, пад ціскам фактаў, абурэньня ўсясьветнай супольнасьці Масква мусіла прызнаць, што паўднёвакарэйскі «Боінг» быў усё ж зьбіты савецкімі вайскоўцамі. І калі на прэсавай канфэрэнцыі замежныя журналісты спыталіся ў загадчыка аддзелу міжнароднай інфармацыі ЦК КПСС Леаніда Замяціна: навошта вы казалі няпраўду ў першым паведамленьні ТАСС? — то яго адказ можна лічыць узорам віртуознай дэмагогіі савецкай прапаганды: вы зрабілі няправільны пераклад з расейскай дыпляматычнай мовы.**

Гэтая фраза ўзгадваецца, калі слухаю заявы расейскіх афіцыйных асобаў, дзяржаўных мэдыяў з нагоды зьбіцьця малайзійскага «Боінга». Зьвяртае на сябе ўвагу незвычайная рэакцыя на гэтую трагедыю Уладзімера Пуціна. Ён, быццам чагосьці моцна спалохаўшыся, неяк дзіўна замітусіўся. Здавалася б, катастрофа здарылася на тэрыторыі суседняй дзяржавы, самалёт не расейскі, грамадзян РФ на борце не было, а паводле афіцыйнай вэрсіі Крамля, ніякай падтрымкі сэпаратыстам на ўсходзе Украіны Масква не аказвае. То бок Расея быццам бы тут зусім ні пры чым. Але Уладзімер Пуцін нібы за нешта апраўдваецца. Адразу ж пасьля падзеньня «Боінга» ён робіць бясконцыя тэлефанаваньні заходнім лідэрам, дэманстратыўна праводзіць у тэлеэфіры хвіліну маўчаньня ў памяць аб загінулых у катастрофе, выступае зь нейкім дзіўным пустым начным тэлезваротам, ліхаманкава праводзіць паседжаньне Рады бясьпекі РФ.

Непакой Пуціна зразумелы. Зьнішчэньне пасажырскага авіялайнэра прынцыпова мяняе ўвесь кантэкст расейска-ўкраінскага канфлікту. Да гэтага часу вайна на ўсходзе Украіны для ўсяго сьвету, у тым ліку для ЗША і Эўропы, была ў пэўным сэнсе геапалітычнай абстракцыяй. Так, Расея парушае міжнародныя правілы, ёй трэба на гэта мякка паказаць, але псаваць адносіны з Масквой ня хочацца, бо на яе завязана шмат розных інтарэсаў.

У эпоху глябалізацыі бясьпека можа быць толькі ўсеагульнай

Цяпер становіцца відавочным, што ваенны ачаг на ўсходзе Украіны — гэта пагроза міжнароднай бясьпецы. Гэтая вайна пачала забіваць грамадзян Нідэрляндаў, Малайзіі, Аўстраліі ды іншых краін, далёкіх ад месца баявых дзеяньняў. Бо ў эпоху глябалізацыі бясьпека можа быць толькі ўсеагульнай.

У мяне ёсьць сумневы, што міжнародная камісія, якая расьсьледуе прычыны катастрофы, прыйдзе да нейкіх пэўных высноваў адносна таго, хто зьбіў самалёт. Як, напрыклад, міжнародная камісія так і не прыйшла да высновы, хто прымяняў хімічную зброю ў Сырыі. Гэта цяжка зрабіць, асабліва ва ўмовах, калі супрацоўнічаць зь міжнароднымі экспэртамі вінаватыя ня хочуць, а прымусіць іх немагчыма.

Але нават калі такія высновы будуць зробленыя, то бакі ўкраінскай вайны іх не прызнаюць. Калі камісія абвесьціць, што самалёт зьбілі сэпаратысты, то лідэры ДНР, а за імі і Расея скажуць, што экспэрты ангажаваныя, купленыя Захадам. Як не прызнаў СССР вынікаў міжнароднага расьсьледаваньня трагедыі з паўднёвакарэйскім «Боінгам» у 1983 годзе. Падчас жорсткай інфармацыйнай вайны па-іншаму не бывае. Зьбіты лайнэр стане толькі новай порцыяй бэнзіну ў агонь гэтай вайны.

Аднак нават у сытуацыі нявызначанасьці што да канкрэтных вінаўнікаў зьнішчэньня малайзійскага авіялайнэра заходнія дзяржавы абвінавацілі сёньня Маскву. Пуцін не памыліўся ў сваіх прадчуваньнях. І лёгіка Захаду зразумелая. Калі, як выказаўся расейскі журналіст Уладзімер Салаўёў, «самалёт зьбіла вайна», то хто арганізаваў гэтую вайну? Без падтрымкі Расеі ваенны канфлікт на ўсходзе Украіны быў бы немагчымы. У такім выпадку Масква павінна несьці палітычную адказнасьць за зьбіты авіялайнэр.

Адным з важных наступстваў авіякатастрофы над Данбасам стала больш рашучая пазыцыя Эўропы адносна неабходнасьці спыненьня ваеннага канфлікту і ацэнак пазыцыі Расеі. Цяпер у грамадзкай думцы Захаду Расея выглядае спонсарам міжнароднага тэрарызму. І ад гэтага вобразу Маскве цяжка адмыцца. Як сказаў прэм'ер Аўстраліі Тоні Эбат, «Расея ня выйдзе сухой з вады».

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

НАША ЎЛАДА

# "СЛУГІ" ПРА СЯБЕ НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ

**Спікер Андрэйчанка прыватызаваў апартаменты коштам $400 тысяч: падрабязнасці. Да трохпакаёўкі ў Дараздах ён дадаў і ўчастак у Вяснінцы.**

Чатыры аднолькавыя дамы па вуліцы Піянерскай у Мінску закрытыя ад вачэй мінчукоў сцяной забаўляльнага цэнтра, які належыць Юрыю Чыжу.

Суседства з «Арэна-Сіці» наўрад ці даспадобы гаспадарам элітнага жылля. Купляючы свае кватэры, яны разлічвалі бачыць за вокнаміззянне праспекта Пераможцаў, а не грузавікі, якія завозяць прадукты ў «Прастор».

Адметнасць дамоў — закрытая па перыметры ўнутраная пляцоўка. Дзеці гуляюцца за невысокім плотам, ніхто чужы да іх не падбярэцца, хіба што праз падземны паркінг. Кожнаму гаспадару выдзеленая прастора на стаянцы, а некаторым і па два месцы.

**Прыватныя дамы ад «свайго» забудоўшчыка**

Дамы з'явіліся ў канцы 2000-х, забудоўшчыкам быў «Трэст Прамбуд». Гэта кампанія, якая ў свой час паўстала ў шчыльным супрацоўніцтве з дзяржаўным «Мінскбудам», але фармальна з'яўляецца закрытым акцыянерным таварыствам.

Галоўным праектам «Трэста Прамбуд» была забудова раёна Дразды катэджамі для лукашэнкаўскіх чыноўнікаў.

Генеральнаму дырэктару кампаніі Віктару Мазоўку і самому дазволілі пасяліцца паміж міністраў. Дамы па Піянерскай знаходзяцца якраз праз дарогу ад тых наменклатурных кварталаў.

У 2008 годзе барысаўскі БАТЭ ўпершыню трапіў у Лігу чэмпіёнаў, а таму гульцы і трэнеры масава ўкладалі атрыманыя прызавыя грошы ў нерухомасць.

Ніякіх ільготнікаў тут няма, гаспадары набывалі жыллё ў «Трэста Прамбуд» па камерцыйнай цане. Але цікавасць выклікае толькі некалькі кватэр.

Вялізная трохпакаёўка агульнай плошчай 114 м2 належыць Уладзіміру Андрэйчанку, які раней кіраваў Віцебскай вобласцю, але ўжо шосты год узначальвае палату прадстаўнікоў.

На куплю кватэры яму магло б хапіць стабільна высокага заробку.

Раз на чатыры гады, балатуючыся ў парламент, Андрэйчанка публікуе сваю дэкларацыю аб даходах. Дык вось, у 2007, яшчэ ў статусе віцебскага губернатара, ён у сярэднім меў па $2100 за месяц. А ў 2011 Андрэйчанка-спікер задэкляраваў штомесячны $2250. Два дзесяцігоддзі на высокіх пасадах дазволілі б яму адкласці грошы фактычна на любое жыллё ў Беларусі.

Аднак, паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, сваю элітную кватэру Андрэйчанка… прыватызаваў! Яшчэ ў кастрычніку 2010 года.

**Службовае жыллё для эліты**

У 1999 Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №286 «Аб стварэнні спецыяльнага службовага жыллёвага фонду».

У ім быў складзены спіс чыноўнікаў, якія маглі прэтэндаваць на службовае жыллё на час працы ў дзяржаўных органах «у мэтах забеспячэння належных умоў для выканання імі службовых абавязкаў, забеспячэння іх бяспекі і аховы дзяржаўных сакрэтаў».

У рэспубліканскі спіс трапілі каля дваццаці пасадаў (ад прэзідэнта да старшыні Нацбанка), а таксама дэпутаты абедзвюх палатаў парламента.

Андрэйчанка мог прэтэндаваць на такое службовае жыллё і калі кіраваў Віцебшчынай, і калі пераехаў у парламент. Для дэпутатаў з рэгіёнаў у Мінску выдзеленыя два дамы каля вуліцы Чырвонаармейскай на беразе Свіслачы. Але пасяліць «народных выбраннікаў» маглі і ў любой іншай свабоднай службовай кватэры. Ці магла прыватызаваная кватэра Андрэйчанкі быць «дэпутацкай»?

У законе «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду», які дзейнічаў на тэрыторыі краіны ад 1992 да 2013 года (летась ён страціў сілу пасля з'яўлення Жыллёвага кодэкса), адназначна сказана: жылыя памяшканні спецыяльнага службовага жыллёвага фонду не падлягаюць прыватызацыі.

**Цана — $400 тысяч**

«Прыватызацыя» кватэры азначае, што раней яна была дзяржаўнай. Але адкуль узялася дзяржаўная кватэра ў прыватным доме?

Як тлумачаць юрысты, усе забудоўшчыкі перадаюць некалькі кватэр у пабудаваным доме муніцыпальным уладам.

Гэтую нерухомасць звычайна прапануюць тым, чыё жыллё пайшло пад знос. Магчыма, кватэра Андрэйчанкі трапіла ў дзяржаўную ўласнасць менавіта па такой схеме. Але і ў такім выпадку спікер не мог прэтэндаваць на яе атрыманне.

У дакументах Нацыянальнага кадастравага агенцтва не ўдакладняецца, была прыватызацыя платнай ці бясплатнай.

Затое можна падлічыць цяперашні прыблізны кошт жылля Андрэйчанкі. На продаж выстаўленыя з дзясятак кватэр у гэтым і суседніх дамах. Квадратны метр у іх каштуе ад $2800 за голыя сцены да $5000 за дызайнерскі рамонт.

Нават калі ўзяць сярэднюю цану, то прыватызаваная трохпакаёўка Андрэйчанкі каштуе больш за $400 тысяч.

* * *

*У лістападзе 2011 года Андрэйчанка атрымаў ад Мінгарвыканкама яшчэ і зямлю пад будаўніцтва катэджа ў Вяснінцы, гэта 1 км ад сваёй кватэры ў Драздах.*

* * *

**Ягор Марціновіч**
**Чытаць цалкам nn.by**

НАШЫ РЭАЛІІ




"Новы час"

Прэзідэнт кажа прэм'еру: *«Трэба дапамагчы малому бізнэсу. Яго тэрарызуюць, так жыць нельга, яму трэба развіццё».*

Прэм'ер кажа чальцам ураду: *«Там праблемы ў малога бізнэсу, мы павінны іх вырашаць».*

Міністр унутраных спраў кажа начальніку ўпраўлення: *«Там нешта не тое з малым бізнэсам... Нешта з гэтым трэба рабіць».*

Начальнік упраўлення кажа міліцыянту: *«Там гэты малы бізнэс дастаў наогул. Тапчы яго да чортавай мацеры!»*

**Расейскі эканаміст**
**Аляксандр Аузан**

ДЗЯРЖАЎНАЯ СІМВОЛІКА

# СВЕТЛАНА КАЛИНКИНА: ТЯП-ЛЯП

**За время долгих выходных в честь Дня независимости мне пришлось несколько раз возвращаться к этой истории. А всего-то хотела – развлечь байкой из жизни белорусского государства друзей-иностранцев.**

Но оказалось, что и мои белорусские друзья не знали о казусе, который случился с одним из главных государственных символов. Не могли поверить. Проверяли мой рассказ по картинкам из Интернета и даже в поля выезжали, чтобы убедиться.

В ходе проверки оказалось, что не курсе хорошо известной в узких кругах истории про пресловутое белорусское тяп-ляп не только мои друзья,но и белорусские посольства, школы, составители книг о государственной символике, члены избирательных комиссий и даже Управление делами президента. Поэтому рассказываю еще раз.

…Герб, флаг и гимн – символы государства. Это значит, что они -- нечто большее, чем просто картинка, или кусок материи, или набор слов под набор звуков. Они проявление некоего глубинного смысла, кода, идеи, которая обязательно становится материальной.

В этой связи хотелось бы поговорить о нынешнем белорусском гербе. Что бы там ни писали в официальных толкованиях, он у нас аляповатый и хитросочиненный. Беларусь изображена в виде облака, которое висит между пятиконечной красной звездой и Землей, над которой восходит солнце. Причем, висит почему-то аккурат над одним из полюсов, будто нас кинуло в крайность, а потом выплюнуло.

Солнце похоже на девушку в кокошнике, обозначенный кусок суши приветствует нас головой дракона, земля изображена не коричневой и не зеленой, а зачем-то фиолетово-сиреневой…

Этот набор странных образов мы видим сквозь предельно реалистичную картинку: снопы ржи, перевязанные красно-зелеными лентами и украшенные цветами, сплетаются в венок. По задумке, справа на венке – цветы клевера, слева – льна.

Беларусь никогда не была житницей, потому колосья для нас ничего не символизируют. В цветках клевера тоже нет никакого глубинного смысла (разве что напоминают помпоны на шапке, а Беларусь, действительно, страна не жаркая). А вот лен – да. Лен – это то немногое на современном белорусском гербе, что, по мнению специалистов, могло стать не просто картинкой, но нести в себе и смысл, и символ. И тут не о наших голубых глазах речь (тем более, что цветки льна могут быть не только голубыми, но и фиолетовыми, синими, розовыми, даже желтыми). Лён – одно из самых древних растений, с которым человек подружился: им и питались, и лечились, и одевали себя, и украшали дом. Традиции возведения льна свидетельствуют о древней культуре народа. Кто-то давным-давно научился делать вино, кто-то – выращивать рис, а мы – лён… Звучит!

К тому же, сам цветок льна – непростой, потому что имеет пять лепестков. И это вам не какая-нибудь ромашка с романтическим подтекстом «любит-не любит».

Трехлистник, как известно, символ Ирландии, напоминает крест, символизирует христианство. Во Франции – символ королевского дома.

Четырехлистник традиционно является символом невероятной удачи и благополучия: один лепесток для славы, один для богатства, один для любви и один для здоровья.

А вот пятилистник это символ женщины, матери-земли, в христианской традиции – Богородицы… И на самом деле красивую можно придумать легенду про народ, который охраняет матерь Божья, оттолкнувшись от этого цветка, если бы символы белорусского государства не делались в спешке и горячке по методу тяп-ляп.

Еще раз обращаю внимание: у цветков льна пять лепестков. И только пять!

А на белорусском гербе почему-то изобразили голубые цветы с шестью лепестками. То есть как угодно это называется, но это оказался ни в коем случае не лен.

Допустить такой ляп в гербе страны – это настоящий позор. Тем более, что при замене герба «Погоня» на «качан капусты» нас убеждали, что над эскизом работали лучшие и авторитетнейшие специалисты и комиссии.

Вот такие «лучшие», вот такие «специалисты», вот такой оказался герб, вот такой государственный символ, вот такая жизнь – тяп-ляп.

Исправляли ляп по-тихому аж в 2004 году, приняв новый закон о государственной символике. Ничего особо не объясняли и не комментировали. Страна даже не узнала о позоре, который случился. Причем, не узнали не только простые обыватели, но и люди ответственные, осведомленные. В итоге если сегодня посмотреть образец герба Беларуси на сайте белорусского президента, то там он правильный -- у льна пять лепестков. А вот на сайтах дипмиссий, школ, на фото с избирательных участков и даже в образцах продукции, предлагаемой Управлением делами президента до сих пор красуются государственные символы с изображением цветка-мутанта. Здесь никаких распоряжений не получали, здесь по-прежнему не в курсе.

Как корабль назвали, так он и плывет… Тяп-ляп…

**Народная Воля**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ТЭСТ ДЛЯ ДЭПУТАТАЎ

**«Народны рэферэндум» ладзіць своеасаблівую праверку дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў на чуллівасць да волі народа. На гэтым тыдні пачаліся нашы сустрэчы з тымі, каго звыкла называюць народнымі абраннікамі, піша першы намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч на Naviny.by.**

Па-першае, мы хочам высветліць, ці сапраўды дэпутаты адкрытыя для выбарцаў і маюць дасяжны графік прыёму. Па-другое, маем намер пры ўдзеле рэгіянальных актывістаў абмеркаваць з імі праблемы акругі, якую прадстаўляе той альбо іншы дэпутат. Па-трэцяе, мы прэзентуем "Народны рэферэндум".

Бо ў хуткім часе, пры канцы жніўня, у Палату прадстаўнікоў будуць накіраваныя першыя з сабраных у падтрымку "Народнага рэферэндуму" 50 тысяч подпісаў. Нагадаем, іх наяўнасць — падстава для ініцыявання дэпутатамі плебісцыта.

Падчас шматлікіх сустрэчаў з людзьмі па Беларусі мы ўжо вывелі пэўны рэйтынг папулярнасці шасці пытанняў, якія складаюць парадак дня "Народнага рэферэндуму". Цікава, якія з іх падаюцца вартымі для вынясення на ўсенароднае галасаванне тым, хто засядае ў Палаце прадстаўнікоў:

- Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?

- Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?

- Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?

- Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?

- Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?

- Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

На гэтым тыдні яўскладзе дэлегацыі "Народнага рэферэндуму" наведаў Магілеў. Нягледзячы на нячастыя прыёмы грамадзян тамтэйшымі дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, ажыятажу не назіралася. Выбарцы ішлі да дэпутатаў з мясцовымі пытаннямі, якія б маглі паспяхова вырашацца мясцовымі ўладамі пры ўмове іх самастойнасці і эфектыўнасці.

Мы звярнуліся да "народных абраннікаў" як з лакальнымі пытаннямі, так і з пытаннямі нацыянальнага маштабу. Дэпутаты выявілі сваю абазнанасць у мясцовых праблемах, на пытанні ж кампаніі "Народны рэферэндум" рэагавалі стрымана. Адчувалася, што інфармацыя для іх - не новая, але сваё стаўленне, магчыма і негатыўнае, яны адкрыта выказаць не могуць: пад ініцыятывай стаіць жа 50 тысяч подпісаў, у тым ліку і іх выбарцаў.

Прызначаныя, але не абраныя на свабодных выбарах, яны разумеюць сваю ролю ў сістэме сённяшняй улады, таму радыя любой увазе, нават з боку апазіцыі. А для нас такія сустрэчы — рэальная магчымасць яшчэ хоць на паўкрока наблізіць правядзенне "Народнага рэферэндуму".

На 50 тысячах подпісаў "Народны рэферэндум" не спыняецца. Мэта не мяняецца — іх будзе сабрана паўмільёна.

Мы ўпэўненыя, што сёння прыхільнікі пераменаў, мірных і незваротных, ужо складаюць большасць беларусаў. Неабходна толькі аб'яднаць гэтую большасць і прымусіць уладу лічыцца з пазіцыяй актыўных і неабыякавых грамадзян.

Пацвярджаюць наш аптымізм і апошнія, чэрвеньскія, дадзеныя Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільня). Задавалася пытанне пра самы рэалістычны і пажаданы варыянт пераменаў. Палова апытаных назвала выбары, траціна згадала рэферэндум. Толькі 8% — вулічны пратэст.

Сярод тых, хто не давярае Лукашэнку, лічбы адпаведна такія: 29,2% верацьу выніковасць выбараў, 43,5% — у плён рэферэндума, 16% спадзяюцца на Плошчу.

На пытанне пра тое, ці павінны дэпутаты парламента падтрымаць 50 тысяч грамадзян, якія паставілі свае подпісы за "Народны рэферэндум", і абвясціць у Беларусі рэферэндум, 44,5% адказалі станоўча, а 37,5% адмоўна (18% устрымаліся). Прычым 31,7% рэспандэнтаў лічаць, што такі рэферэндум лепш правесці да канца 2014 года, звыш 20% — сумясціць з прэзідэнцкімі выбарамі ў 2015 годзе, 15% — пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Зрэшты, ёсць варыянт, калі ініцыятары "Народнага рэферэндуму" гатовыя згарнуць ініцыятыву. Гэта калі ў 2015 годзе ў краіне з'явіцца новы прэзідэнт, які ў сваёй палітыцы ўлічыць яго змест і меркаванні сотняў тысяч грамадзян, якія падпішуцца "за".

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.07.2014 у 16.20** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.